


№21 красавік 2000

Свабода, справядлівасць, салідарнасць

# ГРАМАДА

Інфармацыйны бюлетэнь Гродзенскай грамадскай арганізацыі "МАЛАДАЯ ГРАМАДА"

## Абаронім Айчыну самі!

23 красавіка адбыўся пікет "За альтэрнатыўную вайсковую службу". Арганізаваная акцыя была "Маладой Грамадой" і "Маладым Фронтам". Сацыял-дэмакратычная моладзь падаля заяву ў гарвыканкам на месца ля Дома Сувязі. Гарвыканкам палічыў немэтазгодным даваць гэтае традыцыйнае месца і парэкамендаваў правесці пікет ля кінатэатра "Кастрычнік". Гэта ўсё роўна, што праводзіць акцыю ў глухім лесе. Было прынятае рашэнне не змяняць месца правядзення мерапрыемства ў сувязі з актуальнасцю праблемы, тым больш гарвыканкам і дагэтага "памыляўся" (пасля забароны антыфашыстоўскіх пікетаў пачалі рэгулярна ажыццяўляцца вылазкі фашыкаў).

З 11 да 12 гадзін было раздадзена каля 400 улётак, сабрана таксама каля 100 подпісаў у падтрымку вайсковай рэформы. Сярод лозунгаў пікетоўшчыкаў былі: "Прафесійная армія", "Ці патрэбен выпускнікам ВНУ вайсковы "дыплом"?, "Мірная зброя замест гарматаў", "Альтэрнатыўная служба". Увесь час сцягі БСДП-НГ і БНФ упрыгожвалі месца акцыі.

Інцыдэнтаў не было. Аднак меркаванняў па ўвядзенню інстытута альтэрнатыўнай службы – колькі заўгодна. Меншасць выказвалася за тое, каб юнакі абавязкова праходзілі "школу выжывання", прычым менавіта ў экстрэмальным сэнсе. Большасць, тым не менш, лічыла, што трэба паважаць выбар кожнага чалавека.

Больш падрабязна пра асаблівасці альтэрнатыўнай службы чытайце ў гэтым нумары.

*Ул. інф.*



## Моладзевыя сустрэчы

Пад такой назвай адбываюцца сустрэчы прадстаўнікоў розных моладзевых грамадскіх арганізацый Гродна. Сустрэчы арганізоўваюцца штомесяц (апошняя пятніца звычайна) прадстаўніцтвам Фонда Фрыдрыха Эберта ў Беларусі. Ідэя мерапрыемства: пашырыць кантакты паміж арганізацыямі, абмеркаваць разнастайныя пытанні ў розных галінах, такіх як палітыка, эканоміка, сродкі сувязі, культура, сацыяльная палітыка, моладзь, дзеці. Праграма разлічана на 12 месяцаў.

28 красавіка другі раз адбывалася сустрэча, у якой прыняло ўдзел каля 20 удзельнікаў. Моладзевы інтэрнэт-клуб "Мадэм" запрасіў азнаёміцца з асновамі інтэрнэту. Адзінае пытанне, якое ў прынцыпе не абмяркоўвалася – праца адукацыйнага цэнтру ACCELS. Прысутныя даведаліся пра разнастайныя праграмы і магчымасці ўдзелу ў іх. А далей – выключна інтэрнэт. Менавіта так былі растаўленыя акцэнты. Сучасныя сродкі камунікацыі дазваляюць працаваць нашмат больш эфектыўна ў шматлікіх галінах дзейнасці, трэці сектар – не выключэнне. Таму была відыць непадробленая цікавасць да Інтэрнэт-трэнінга.

Плануецца, што чарговая сустрэча адбудзецца 26 мая. Першая частка гэтых мерапрыемстваў традыцыйна будзе прысвечана працы з Інтэрнэтам і ў Інтэрнэце, другая, натуральна, – дыскусіі.

*Ул. інф.*



Моладзевы Антыфашыстоўскі Цэнтар абвяшчае конкурс на лепшы антыфашыстоўскі малюнак «Беларусь без свастыкі».Малюнкі дасылаць на адрас: МАЦ, п/с 62, Горадня-3, 230003 альбо прыносіць шточацьвер і нядзелю ў 19:30 па адрасе : вул.К.Маркса,11 (першы паверх). Малюнкі прымаюцца зробленыя ў любым выглядзе (тушшу,алоўкам, фарбамі ды інш.), могуць быць любога памеру.

Пераможцаў чакае шыкоўны прыз!

*Ул. інф.*



## З гісторыі

# Сацыял-дэмакратычны рух Беларусі ў сучасных умовах

Пачатак новага этапу развіцця сацыял-дэмакратычнага руху ў Беларусі можна адлічваць з лета 1996 года. 29 чэрвеня 1996 года адбыліся з'езды партый сацыял-дэмакратычнага накірунку – Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (БСДГ) і Партыі народнай згоды (ПНЗ). На абодвух было прынятае рашэнне аб стварэнні адзінай сацыял-дэмакратычнай партыі шляхам зліцця гэтых палітычных арганізацый. Неўзабаве адбыўся аб'яднаўчы з'езд, на якім і было абвешчана аб стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада". Аднак, трэба адзначыць, што да гэтага папярэднічаў даволі працяглы перыяд працэс выпрацоўкі прынцыпаў і ўмоў, на якіх можна было б стварыць адзіную сацыял-дэмакратычную арганізацыю. Усё гэта вылілася ва ўнутрыпартыйныя спрэчкі і дыскусіі.

Спачатку быў створаны адзіны ў Беларусі выбарчы блок " Сацыял-дэмакратычны саюз" (СДС). У яго склад увайшлі БСДГ, ПНЗ і Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды (ПУАЗ). Галоўнай мэтай СДС было ўзгадненне пазіцыі і падрыхтоўка да паўторных парламенцкіх выбараў. Выбарчы блок СДС вылучыў кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 82 асобы. Сацыял-дэмакратычны саюз дэклараваў сваю прыхільнасць да прынцыпаў сусветнай сацыял-дэмакратыі: свабода, справядлівасць, роўнасць, салідарнасць. СДС выступаў за ўмацаванне дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. Пасля фармавання Вярхоўнага Савета 13-га склікання, у парламенце была створана сацыял-дэмакратычная фракцыя. На парадак дня стала пытанне стварэння моцнай сацыял-дэмакратычнай партыі. У першай палове 1996 года працэс аб'яднання БСДГ і ПНЗ паскорыўся. У шэрагах абедзвюх партый тым не менш знайшлося і шмат праціўнікаў аб'яднання. Прыводзіліся самыя розныя доказы супраць гэтага працэсу, меркаванні выказваліся ў самых розных друкаваных выданнях. Прыхільнікі ж аб'яднання спрабавалі пераканаць у слушнасці сваіх довадаў і імкнуліся заглянуць у перспектыву.

Нават падчас з'ездаў, дзе прымалася канчатковае рашэнне аб аб'яднанні, працягваліся гарачыя дыскусіі. Так, напрыклад, на з'ездзе БСДГ паразумення паміж грамадоўцамі не было, і частка сяброў галасавала супраць. Гэта, аднак, не паўплывала на канчатковае рашэнне і на абранне М. Статкевіча старшынём партыі. Як вынік – утварэнне БСДП-НГ.

Статут БСДП-НГ па сутнасці дубліраваў арганізацыйныя прынцыпы Грамады: прыём па рэкамендацыі, абавязковыя складкі, магчымасць выключэння сябра партыі. Агульны з'езд зацвердзіў сустаршынямі ЦК БСДП-НГ лідэраў абедзвюх партый-утваральнікаў: Міколу Статкевіча ад Грамады і Леаніда Сечку ад Згоды, а таксама праграму новай партыі. Яе асноўныя прынцыпы наступныя: сацыяльная дэмакратыя, дзяржаўны суверэнітэт Беларусі і безумоўнае выкананне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У заяве, прынятай ад імя новаўтворанай партыі, звярталася ўвага на хуткае набліжэнне эканамічнай катастрофы, да якой вядзе палітыка ўраду. Аб'яднаныя сацыял-дэмакраты заклікалі кіраўніцтва краіны правесці шырокія кансультацыі з палітычнымі арганізацыямі і прызначыць новы ўрад народнага даверу, якому з мэтай выратавання эканомікі надаць большыя паўнамоцтвы.

Першыя месяцы дзейнасці БСДП-НГ сталі часам выпрабаванняў. Адразу ж пасля ўзнікнення партыі намеціліся дзве тэндэнцыі. Першая – раскол (ці захаванне па словах лідараў) Грамадоўскай часткі БСДП-НГ і гэтым самым аслабленне нацыяна-патрыятычнага накірунку дзейнасці партыі. Другая – спроба часткі ПНЗ (у большасці сваёй чыноўнікаў самых розных рангаў) зрабіць партыю прапрэзідэнцкай, лаяльнай да ўладаў. Асабліва гэта выявілася ў часы канстытуцыйнага крызісу па пытаннях так званага рэферэндума. Да гонару, партыя змагла выстаяць у той пераломны час і не здрадзіла сваім прынцыпам. 28 лістапада1996 года БСДП-НГ выступіла з заявай, у якой асудзіла рэферэндум і яго вынікі, выступіла ў абарону дэмакратыі. Адначасова адбылася "чыстка" шэрагаў партыі ад людзей, якія вялі яе да згодніцтва з антыдэмакратычнымі ўладамі. З БСДП быў выключаны сустаршыня ЦК Леанід Сечка з фармулёўкай "за грубае парушэнне Статута БСМДП, што выявілася ў актыўным супрацьдзеянні рашэнню аб'яднаўчага з'езда БСДГ і ПНЗ, за актыўную антыдэмакратычную і антыканстытуцыйную дзейнасць, несумяшчальную са Статутам і Праграмай партыі". Такую фармулёўку можна было б прымяніць і да дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія перайшлі ў антыканстытуцыйную Палату прадстаўнікоў.

На сённяшні дзень у Беларусі маецца тры партыі, якія носяць у сваёй назве "сацыял-дэмакратычная". Сацыял-дэмакратычная партыя "Згода" – кішэнная праўрадавая арганізацыя, якую і партыяй назваць цяжка і пра якую ўлады ўспамінаюць, калі трэба падтрымаць якую-небудзь ініцыятыву з нетраў Адміністрацыі накшталт "Грамадзянскага дыялога". Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада – партыя, якая складаецца з тых сяброў БСДГ, якія былі не згодны з аб'яднаннем з ПНЗ. Сябры гэтай арганізацыі ў асноўным заангажаваны ў нацыянальна-культурніцкую дзейнасць. Толькі БСДП-НГ ператварылася ва ўплывовую арганізацыю з развітай структурай, якая заваёўвае ўсё больш аўтарытэт у грамадстве. Сябры БСДП-НГ неаднаразова былі рэпрэсіраваны падчас розных акцый, якія ладзіліся дэмакратычнымі сіламі. Лідар партыі М. Статкевіч неаднойчы арыштоўваўся і быў пакараны ў адміністрацыйным парадку. Узбуджаны таксама і крымінальныя справы.

Партыя мае вялікі міжнародны аўтарытэт. Восенню 1999 была прынятая ў Сацінтэрн і іншыя структуры міжнароднага сацыялістычнага і сацыял-дэмакратычнага руху. Па словах старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі - –Народная Грамада Мікалая Статкевіча сёння сацыял-дэмакратычны рух займаецца вырашэннем узаемазалежных задачаў: захаванне і ўмацаванне незалежнасці Беларусі; пабудова дэмакратычных інстытутаў у длзяржаве і грамадстве, рэалізацыя прынцыпу падзелу ўладаў; пабудова сацыяльна-арыетаванай высокаразвітай рынкавай эканомікі; развіццё і ўмацаванне нацыянальнай культуры і культуры нацыянальных меншасцяў.

У сучасны перыяд беларускай гісторыі на першы план выходзіць другая з пералічаных задачаў, звязаная з барацьбой за дэмакратыю. У гэтай барацьбе Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя –Народная Грамада знаходзіцца ў авангардзе разам з тымі, для каго незалежнасць, свабода, дэмакратыя, справядлівасць з'яўляюцца асноўнымі прынцыпамі Вольнай Беларусі.

***Падрыхтаваў***
***кандыдат гістарычных навук,***
***дацэнт***

***Сяргей Піваварчык***

# ДЗЕНЬ ВОЛІ – 2000



*25 сакавіка сапраўднае свята беларусаў. Гэта дзень, калі эліта беларускага грамадства на пачатку стагоддзя ва ўмовах татальнага ўціску як з Захаду, так і з Усходу, асмелілася абвясціць аб самым дарагім для кожнага чалавека – незалежнасці сваёй краіны. І няхай гісторыкі дыскутуюць ці абвешчаная ў 1918 годзе Беларуская Народная Рэспубліка стала сапраўднай дзяржавай, ці не, для нас, беларусаў, раскіданых па цэлым свеце, гэты вясновы дзень сімвалізуе змаганне і, ўрэшце, пад канец 20 стагоддзя, перамогу ў атрыманні дзяржаўнага суверэнітэту.*

25 сакавіка 2000 года стала чарговым гучным святкаваннем Дня Волі ў Гродне. Мітынг, які сабраў каля трох тысяч удзельнікаў, пачаўся "несанкцыянаваным шэсцем" ад Палаца тэкстыльшчыкаў да Новага парку. На шляху калоны ўпершыню ў Гродне з'явіліся "чарапашкі-ніндзя" – доблесныя амапаўцы ў поўнай амуніцыі. Кардон перагарадзіў пешаходную вуліцу Савецкую і прымусіў паралізаваць рух на адной з самых ажыўленых дарог – Вялікую Траецкую вуліцу.

Уласна мітынг адбываўся даволі дынамічна. Каля дзесяці прамоўцаў яскрава выступілі і данеслі пэўныя праблемы да прысутных. Адной з іх была Святлана Нех, сябра "Маладой Грамады". Ніжэй мы прыводзім поўны тэкст яе выступу. Лічым, што гэта будзе цікава чытачу.

Арганізацыя мітынгу была на даволі высокім узроўні: якасна зробленыя лозунгі, шмат сімволікі. Сцяг Еўрасаюзу падкрэсліваў "ДЗЕ МЫ".

Адзін эпізод, нажаль, быў даволі непрыкметны, але вельмі сімвалічны. Як вядома на 25 сакавіка па навучальных установах горада было распаўсюджана пастанаўленне аб недапушчэнні прысутнасці вучняў, навучэнцаў, студэнтаў на мітынгу. Ажыццяўляць жа кантроль за гэтым вызваліся самыя маладыя: першы прарэктар (Мартынаў Іван Платонавіч) і загадчык выхаваўчага аддзела універсітэта (Кабяк Георгій Мікалаевіч). Скажыце, дзядзькі, ці не сорамна? Тым больш з такімі салідньімі пасадамі. Уважлівыя маглі назіраць карцінку: прагарнуўшы лапікі елкі, яны ўважліва сачылі за акцыяй. Прычым ні адзін не высунуўся, не дай бог ГБэшнікі здымуць на плёнку! Карацей, дажыліся!

Вынікам мітынгу, арганізаванага прадстаўнікамі розных палітычных і грамадскіх арганізацыяў, уваходзячых у склад Каардынацыйнага камітэту "Гродзенская ініцыятыва", сталі 10 сутак адміністрацыйнага арышту Сяргея Мальчыка і 160 мінімальных заробкаў (каля 350 долараў ЗША) Уладзіміра Зацэпіна, а таксама сапсаваныя нервы міліцыянтаў і гарадскога начальства.

Як бы ні было, СА СВЯТАМ ВАС, ДАРАГІЯ СУАЙЧЫННІКІ!

***Шаноўныя сябры!***

***Віншую Вас са святам!***

***Я, Нех Святлана. І няхай прарэктары універсітэта не ламаюць сабе галавы над тым, з якога я факультэта, бо ў 1999 годзе скончыла Гродзенскае педагагічнае вучылішча. Цяпер працую педагогам у Цэнтры пазашкольнай працы, кіраўніком гуртка. У месяц я зарабляю 16 мільёнаў рублёў. Гэтай сумы не дастаткова, каб харчавацца аднаму чалавеку, не ўлічваючы тое, што трэба адзявацца, плаціць за кватэру і камунальныя паслугі. Аб тым, каб адкласці што-небудзь на заўтрашні дзень застаецца толькі марыць. Жыву, практычна, за кошт матэрыяльнай падтрымкі маіх бацькоў і з жахам думаю, якпрыходзіцца тым, хто гэтай падтрымкі не мае. А шматлікім, якія не маюць спецыяльнасці, працы, а такіх тысячы і тысячы па Беларусі, – прыходзіцца яшчэ горш. Вось так адбіваецца на нас маладых "вялікая ўвага" гэтай дзяржавы да праблем моладзі.***



***Можна колькі заўгодна гаварыць па лукашэнкаўскім радыё і тэлебачанні, як гэтая дзяржава клапоціцца пра маладое пакаленне, але пустой дэмагогіяй нельга прыкрыць той факт, што гэтая ўлада адабрала ў нас перспектыву на будучыню, упэўненасць у заўтрашнім дні, надзею на больш-менш нармальнае жыццё. Ці не таму ў нас толькі кожны восьмы выпускнік сярэдняй школы можа лічыцца абсалютна здаровым? Ці не таму ў нас распадаецца 7 з 10 шлюбаў, і кожнае пятае дзіця нараджаецца па-за шлюбам?***

***Без вайны і разбурэнняў у дзіцячых дамах знаходзяцца тысячы дзяцей. У той час калі ў цывілізаваных краінах стаіць праблема недахопу дзяцей для ўсынаўлення. Нараджальнасць стала настолькі нізкая за гады кіравання Лукашэнкам, што Беларусь страціла насельніцтва амаль аднаго буйнога горада.***

***Вялікая колькасць маладых людзей не мае маральных арыенціраў, не ведае ніякай мовы, апрача мацернай, злоўжывае алкаголем, наркотыкамі, крадзе, рабуе, забівае. Колькасць зняволеных за апошнія некалькі год узрасла больш як у 4 разы, колькасць захворванняў на сіфіліс – у 5 разоў. Насельніцтва нашай краіны і, перш за ўсё, моладзь ужывае столькі алкаголю, што можна гаварыць ужо аб генетычным выраджэнні нацыі.***

*(працяг на наступнай старонцы)*




На здымку - Святлана Нех

*(працяг, пачатак на папярэдняй старонцы)*

*Мне здаецца, што ўлады свядома такім чынам знішчаюць твар нацыі, каб не было каму пратэставаць і змагацца за сваю будучыню і будучыню сваіх дзяцей, бо дэмаралізаваная,п'яная, хворая, без пачуцця ўласнай годнасці істота – не змагар і не пратэстант.*

*Рэжым усялякімі спробамі робіць усё, каб перашкодзіць моладзі самарэалізавацца, не дапусціць і стварэння незалежных дэмакратычных моладзевых арганізацый. Толькі БПСМ, які ў народзе называюць партыяй сэксуальных меншасцяў, або лукаюгенд, карыстаецца ўсялякай падтрымкай прэзідэнцкай вертыкалі. Такой падтрымкай, што нават уся гродзенская міліцыя: шэраговыя міліцыянеры, следчыя, начальнікі аддзелаў і сам начальнік міліцыі палкоўнік Васілеўскі – сваёй прысутнасцю мусіць забяспечваць масавасць недарэчных БПСМ-аўскіх мітынгаў.*

*Аднак, сапраўдная беларуская моладзь не там, лукамоле, а тут, на гэтым мітынгу. Тая моладзь, што не п'е, не ўжывае наркотыкаў, інтэлект выхавання якой не дапускае ўжывання расійскага брудаслоўя, ніколі не змірыцца з тым, што робіць іх спадзяванні на будучыню марнымі.*

*Мы ведаем, што наша будучыня ў вольнай, незалежнай, дэмакратычнай, еўрапейскай Беларусі. І мы зробім усё магчымае, каб наша Радзіма стала такой, бо толькі тады моладзь, як і ўвесь народ, атрымаюць шанс жыць па-людску!*

*Жыве Беларусь!*

*Жыве незалежная Беларусь!*

*Жыве незалежная Беларусь у вольнай еўрапейскай сям'і народаў!*

## Альтэрнатыўная служба. Што гэта такое?

Апошнім часам даводзіцца чуць прапановы па ўвядзенню альтэрнатыўнай службы ў войску. Добра гэта, ці не – пытанне даволі складанае. Тым больш, што не ўсе ведаюць сутнасць такой службы. Для таго, каб вызначыць, карысная такая прапанова, ці не, трэба пазнаёміцца з праграмай дзейнасці альтэрнатыўнай службы (АС) у ЗША, дзе яна дастаткова добра распрацаваная.

У ЗША у межах закона пра вайсковую павіннасць дзейнічае "Праграма альтэрнатыўнай службы". АС уяўляе сабою выкананне ўскладзеных абавязкаў і рашэнне пастаўленых задач у грамадскай сферы для забеспячэння нацыянальнай бяспекі. Такі від службы распаўсюджваецца на асобаў, якія прайшлі рэгістрацыю ў якасці прызыўнікоў, і прызнаны годнымі да вайсковай службы, але адмаўляюцца ад яе па рэлігійных ці маральна-этычных прычынах. Пры гэтым яны праходзяць дасканалую праверку з далучэннем адпаведных прадстаўнікоў духавенства.

У адпаведнасці з вайсковым заканадаўствам ЗША альтэрнатыўную службу можна праходзіць у такіх грамадскіх сферах як:

ахова здароўя (праца ў шпіталях, паліклініках, дзіцячых дамах, яслях, дамах прыстарэлых);

адукацыі (выкладанне, праца з бацькамі, а таксама ў межах праграмы ўдасканалення вучэбна-педагагічнай дзейнасці, навуковых даследванняў і г.д.);

абарона навакольнага асяроддзя (праца па кансервацыі шкодных аб'ектаў і тэхнікі, пажаратушэнні, дагляд лясоў, паркаў, месцаў адпачынку, ліквідацыя наступстваў стыхійных бедстваў);

сацыяльная сфера (праца па праграмах навучання ці перападрыхтоўкі інвалідаў, абслугоўванне прыстарэлых, праца ў прытулках або ў майстэрнях для разумова ці фізічна адсталых);

грамадскія службы (будаванне дарог, школ, выпраўленчых устаноў, грамадскіх будынкаў);

сельская гаспадарка (выкананне розных гаспадарчых і будаўнічых работ).

Асоба мае права самастойна выбіраць працу ў межах пераліку. Як правіла, перавага аддаецца дзейнасці ў сферах аховы здароўя, абароны навакольнага асяроддзя і навуковых даследванняў. АС можна праходзіць у любой федэральнай або прыватнай арганізацыі, фірме, асацыяцыі ці карпарацыі, якія займаюцца законнай дзейнасцю. Кожны павінен выконваць усе патрабаванні праграмы АС, а таксама правілы, якія датычаць паводзін, адносін да службы, знешняга выгляду і г.д., вызначаныя любому грамадзянскаму служачаму, які выконвае аналагічную працу.

*Эра Новая*

## "БОЛЬШ САМАЧЫННАСЦІ!"

На 17-18 чэрвеня прызначана першая сесія Усебеларускага з'езду. Яго галоўная мэта – адлюстраванне стаўлення грамадства да дзяржаўнасці рэспублікі. Як вядома, на сёняшні дзень існуе некалькі меркаванняў наконт незалежнасці Беларусі. Пытанне ж аб тым, ці застанецца Беларусь самастойнай дзяржавай, дагэтуль адкрытае. Плануецца, што на з'ездзе будуць прадстаўлены ўсе тыя сілы, якім неабыякавы лёс нашай краіны.

Артыкул Янкі Купалы "Больш самачыннасці", які быў напісаны ў 1919 годзе аб'ектыўна адлюстроўвае сітуацыю ў беларускім грамадстве і на пачатку стагоддзя і сёння. Яго словы могуць стануць тым адпраўным пунктам да заваёвы сапраўднай незалежнасці і самадзельнасці Вольнай Беларусі.

"Цікавыя людзі мы – беларусы!

Трэба прызнацца, што якое б ліха навокал нас і з намі ні рабілася, якіх бы мы ні перажывалі нягод і крыўд – мы гэтага як бы не бачым, а калі і бачым, то ліха цярпім ды чакаем, што вось нехта прыйдзе і гэта нашае ліха пабярэ з сабою.

І праўда, вечна хто-небудзь і як-небудзь, а прыходзіў і намі апекаваўся, хоць нашага ліха і не забіраў.

Быў маскоўскі цар, былі ў нас пасланыя ім усялякія чыны: земскі, вураднік, стражнік. Усе гэтыя чыны намі "апекаваліся", а мы шчыра служылі ім, як нявольнікі, ды, уздыхаючы і заціскаючы кулакі, стараліся сябе ўгаварыць, што так і трэба, каб хтось панаваў, а часта казалі, што гэта так Бог даў. А самі ж мы і пальцам не кіўнулі, каб гэтым сваім апекунам паказаць ім належнае месца.

Але рэвалюцыя змяла ў сваім ходзе цара, панясліся ў свет новыя воклікі будавання новага незалежнага жыцця ўсім народам. А мы як бы нішто і ні ў чым. Пасля царскіх чыноў прыйшлі бальшавіцкія чыны не горш ад сваіх папярэднікаў, прыйшлі і павялі сваю гаспадарку ў нас, а мы глядзелі і чакалі, што нехта прыйдзе ды бальшавікоў прагоніць. І прычакалі.

Прыйшлі немцы, бальшавікі ўцяклі, мы асталіся. Немец гаспадарыў, як сам хацеў, над намі, над нашым дабром – не горш нават ад царскіх і бальшавіцкіх гаспадароў, а мы што рабілі? Мы сядзелі і чакалі, злажыўшы рукі, і чакалі нейкага цуду, які забярэ нашае ліха. І дачакалі...

Прыйшлі ізноў бальшавікі, а немцы ўцяклі, толькі мы сядзім на месцы. Бальшавікі навялі свае парадкі і гаспадарку, нягледзячы на тое, ці смачна нам гэта, ці не смачна. Пайшлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г.д. А ў рэзультаце што ж? Пастаўленыя намі (як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое праводзіць, што нам цяжка было дыхаць. І мы стагналі, уздыхалі і чакалі.

Прыйшлі палякі, уцяклі саветы, камітэты і чрэзвычайка, а мы ізноў сабе сядзім і чакаем. Праўда, мы, як гаспадары гэтай зямлі, мусім сядзець на ёй. Але як мы гаспадарым на ёй? Ці не час ужо пакінуць благую прывычку сядзець і сядзець, чакаць і чакаць?..

Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця – гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, – павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі для сябе.

Не, браты, гэтакім ладам мы далёка не заедзем. Час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага пакалення! Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?"

К такому запытанню трэба нам быць гатовымі. Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. А які ж мы дадзім адказ, калі мы цяпер на другіх гэты адказ ускладаем?

Дык больш самачыннасці, больш смеласці к будаванню свайго новага незалежнага жыцця".

*Эра Новая*

# Ісус Хрыстос – наша выратаванне

*"Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб усякі, хто веруе ў Яго, не згінуў, але меў жыццё вечнае"*

*Евангелле паводле Іаана 3:16.*




Жыццё ставіць перад кожным з нас мноства пытанняў: як выправіць здароўе або матэрыяльнае становішча; нас хвалююць адносіны ў сям'і і будучыня краіны – і ўсе гэтыя пытанні заслугоўваюць увагі. Але больш важным за ўсё з'яўляецца пытанне пр Бога і твае адносіны з ім, таму што гэтыя адносіны будуць доўжыцца вечна.

Свята Уваскрашэння Хрыстова на Беларусі называюць Вялікаднем ці Пасхай. Гісторыя ўзнікнення гэтага свята апісана ў Старым Запавеце Бібліі, і веданне гэтай гісторыі дапаможа нам зразумець сутнасць сённяшняй Пасхі.

Аднойчы Бог знайшоў чалавека, якога звалі Аўраам і заключыў з ім дамову. Аўраам паабяцаў Богу выконваць запаветы, а Бог – блаславіць яго і яго нашчадкаў. Такім чынам, Аўраам стаў першым яўрэем "выбраным Богам", а народ, які паходзіць ад яго, стаў называцца божым. З цягам часу яўрэі патрапілі ў егіпецкае рабства на 430 гадоў, пакуль Маісей з божай дапамогай не вывеў іх з Егіпта. Егіпецкі цар не адпускаў яўрэяў, але здзейснілася наступнае. Бог сказаў ізраільцянам, каб кожная сям'я вечарам закалола па адным ягняці і яго крывёю змазала дзверы. Гэта ягнё Бог назваў Пасхай Гасподняй. Апоўначы Гасподзь у пакаранне знішчыў усіх першынцаў у егіпецкіх сем'ях, а першынцы яўрэяў засталіся жывымі, бо кроў ягняці – Пасхі – была на іх дамах і Гасподзь прайшоў міма. Дарэчы, слова Пасха перакладаецца як "той, хто праходзіць міма". Убачыўшы гэта, цар Егіпта згадзіўся адпусціць яўрэяў, і Бог за адну ноч вывеў іх за межы на волю.

Ісус Хрыстос стаў нашай Пасхай. Бо яго кроў акрапіла нашыя сэрцы, каб на судзе Божым Гасподзь убачыў кроў гэтага ягняці – Ісуса Хрыста – і прайшоў міма, не змярцвіўшы нас і не накіраваў у пекла. Тыя сэрцы, якія не засталіся акропленымі кроўю Хрыста, гэта значыць не паверылі у яго ахвяру за нашыя грахі, як і дзеці егіпцян, будуць знішчаны. Можа падацца, што Бог карае людзей несправядліва. Але нават у звычайнай жыццёвай сітуацыі калі паміж двума бакамі заключаецца дамова, то абгаворваюцца ўмовы, якіх патрэбна прытрымлівацца, а бок, які парушае гэтыя ўмовы, нясе пакаранне.

Бог прынёс у ахвяру не жывёлу, а свайго адзінага сына Ісуса Хрыста. Ён аддаў самае дарагое, што ў яго было, для таго, каб чалавек не жыў сам па сабе, асобна ад бога, каб не было прорвы паміж намі. Гасподзь вельмі яскрава выказаў жаданне мець зносіны з чалавекам, сябраваць з ім. Адсюль і прыходзіць адкрыццё, што існасцю Бога з'яўляецца любоў. Гасподзь хоча аддаваць гэтую любоў, аддаваць сябе чалавеку, жыць у ім. Пагадзіся, калі хтосьці табе кажа, што ты патрэбны, што ты цудоўны, што цябе любяць, то ты адчуваеш сябе як на нябёсах. Адзінае, што Бог жадае ад цябе – гэта любоў у адказ, а пра тое, як яе знайсці можна даведацца з Евангелля Ісуса Хрыста, якое адлюстравана ў Бібліі.



Вяртаючыся да сказанаг вышэй, хочацца падкрэсліць тое, што Бог падарыў нам гэтае чыстае, бязгрэшнае пасхальнае ягнё Ісуса Хрыста, каб каб нам было што прадставіць Госпаду ў дзень Суда, каб мы не памерлі як першынцы егіпцян, а ўсю вечнасць правялі з Богам, які ёсць любоў. Каштоўны падарунак, ці не так?

Я веру, што калі беларускі народ, неад'емнай часткай якога з'яўляешся ты і я, узмоліцца да Бога, стане прасіць у яго дапамогі, цаніць і пазнаваць яго слова – Біблію – то той самы Бог, які вывеў яўрэяў з Егіпта, выведзе і беларусаў з духоўнага рабства, рабства граху, страху, жабрацтва, няволі і смерці.

Няхай Бог цябе благаславіць!

***Юрась Пятрэвіч***



# Агляд антыфашыстоўскае прэсы Гарадзеншчыны

АНТЫФАШЫК

ІНФАРМАЦЫЙНЫ АНТЫФАШЫСТОЎСКІ БЮЛЕТЭНЬ

BELARUSIAN INFORMATION ANTI-FASCIST BULLETIN

№ 1(5),2000



**Антыфашык №1(5) 2000**

Найбольш вядомы ў нашым горадзе і на нашую думку ў Беларусі бюлетэнь.

Першы нумар за 2000 год пачынаецца з заявы якую трэба б было працытаваць: «Антыфашык – гэта адкрытая асацыяцыя ...»

Актуальнымі, на маю думку, падаюцца навіны з розных куткоў Беларусі, Расеі, розных краінаў Эўропы ды нават Мэксікі.

Укладыш гэтага нумару прысьвечаны агляду самвыдату на Беларусі, прысьвечаны музычнай сцэне. Што цікава, гэты укладыш-разьдел «Антыфашыка» мае сваеасаблівую назву «Партызаны бетонных джунглей» (назва песьні гурта «Hate To State»).

Наступныя старонкі газэткі расчыняюць вочы на аўстрыйскую Партыю Свабоды ды яе лідара Ёрга Хайдэра.

Але найбольш вялікім ды зьмястоўным падаецца артыкул-абмяркаваньне камунізму ды фашызму «Камуна-фашызм». Матэрыялы да гэтага артыкулу былі ўзятыя пад час антыфа-семінару, прайшоўшага ў студзені бягучага году ў Менску, прысьвечанага 10 годдзю падзеньня Берлінскага мура «Камунізм і фашызм: спробы параўнаньня».

Перадапошняю старонкаю зьяўляецца артыкул на вельмі спрэчную тэму «Гомасэксуалісты і фашысты», у якім паказанае ўнутранае жыцьцё фашыстаў ў Нямеччыне.

Зачыняе нумар, як заўжды, плакат-улётка з антыфашыстоўскім зьместам.




**Тум-балалайка №13**

Газэта па вядомасьці стаіць якраз на другім месцы пасьля «Антыфашыка». Адрозьніваецца не толькі большай колькасьцю старонак ды прафесійным падыходам да адказаў на зададзеныя пытаньні.

Асноўная тэма гэтага нумару – «Халакост». «Халакост» – гэта на сёньняшні дзень пашыранае паняцьце, якое ўвасабляе ў сабе не толькі ганеньні на габрэяў, але і на іншыя меншасьці На сёньняшні дзень ахвярамі Халакосту лічацца габрэі, насельніцтва рома/сінці, Сьведкі Ієговы, гомасэксуалісты, асобы з псіхічнымі ды фізічнымі недахопамі, сацыял-дэмакраты, камуністы ды іншыя асобы, якія насілі ў канцэнтрацыйных лягерах трохкутнікі рознага колеру.

Найбольш цікавымі ў гэтым нумары падаюцца артыкулы «Устранение бесполезных» прысьвечаны забойству ў нацыскай Нямеччыне 1000000 псіхічна хворых асобаў, ды палітыцы «расавае гігіены».

Але раскрываецца тэма больш у артыкуле «Убийство памяти», прысьвечаная забойству габрэяў Савецкага Саюзу, падыход да раскрыцьця злачынстваў фашыстаў пасьля Вялікай Айчыннай вайны савецкімі ўладамі, усе «плюсы» ды «мінусы».

Найбольш спрэчным зьяўляецца артыкул «Суперколосс или добро пожаловать в Россию!»




*Інфармацыйны бюлетэнь Гродзенскай грамадскай арганізацыі МГ «ГРАМАДА» выходзіць раз у месяц на беларускай мове. Наклад 299 асобнікаў. Пры перадруку спасылкі на бюлетэнь неабавязковыя. Друкуецца пры дапамозе ГГА «Ратуша».*

*Адрас для карэспандэнцыі: 230003, Гродна-3, а/с 62*
*E-mail:* hramada.news@usa.net